Адкрытым тэкстам

# Мятламанія,

## альбо Што хаваецца за арганізацыяй прэзідэнцкіх паездак у народ

Пра мяркуемую паездку прэзідэнта А.Лукашэнкі на Пастаўшчыну ў райцэнтры загаварылі ўжо сёлетняй вясной. Скептыкі казалі, што ён не прыедзе, бо год назад сюды ўжо наведаўся і болей тут няма чаго кіраўніку дзяржавы рабіць. Але калі за тыдзень да ягонага візіту ў горадзе пачалі актыўна мясці вуліцы і наводзіць усюды парадак, усе зразумелі: хутка трэба чакаць высокага госця. Неўзабаве было афіцыйна аб'яўлена, што ў ходзе рабочай паездкі А.Лукашэнка азнаёміцца з уборкай ураджаю, станам гандлю і забеспячэннем насельніцтва прадуктамі і прамтаварамі, а затым наведае нацыянальны парк "Браслаўскія азёры".

Паставы ў пачатку лета ўжо актыўна ўпрыгожвалі ўсёй грамадой, калі рыхтаваліся прыняць традыцыйны міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік". Стараюцца і астатні час паўсюдна падтрымліваць чысціню і парадак, бо гэта з'яўляецца зонай асаблівай увагі раённай улады. Тым не менш напярэдадні візіту "народнага прэзідэнта" ў мястэчку назіраўся ніколі нябачаны ажыятаж. Нават у нядзелю пад дажджом працягвалі фарбаваць чатырохпавярховы будынак райвыканкама, не спыняліся рамонтныя работы на цэнтральным гастраноме глыбокай ноччу.

Іншы раз гэтая мітусня з генеральнай чысткай набывала анекдатычныя формы. Бетонную сцяну мясакамбіната бялілі тройчы. Спачатку праца не заладзілася з-за дажджу, які змыў фарбу. Толькі перамалявалі, як машыны запэцкалі сцяну бруднай вадой з лужынаў. Суседзі насупраць з псіхіятрычнай бальніцы паступілі прасцей і з дапамогай персаналу і хворых анучамі памылі да ночы свой участак бетоннага плоту. Яшчэ за суткі да сустрэчы госця са сталіцы служачыя, нібы мурашы, мылі вокны, рабочыя мялі вуліцы і тратуары — усюды наводзілі адмысловы глянц. Зразумела, прыйшлося патраціць немалыя грошы, але ж пасля гэтага горад нібы памаладзеў і крыху набыў еўрапейскі лоск.

Ва ўсялякім разе прайсціся па ім было прыемна. Не пашанцавала толькі аўтамабілістам, бо для іх рух у цэнтры быў перакрыты. Аднак у большасці магазінаў назіраліся вялізныя чэргі. Людзі, навучаныя нядаўнім савецкім мінулым, разлічвалі, што ў крамы будзе завезена шмат чаго. Гандляры сапраўды пастараліся, і ў продажы былі 7—8 гатункаў каўбас, сардэлькі, сасіскі, вяндліна. Вось толькі самая танная з іх каштавала больш за 100 тысяч рублёў за кілаграм...

Натоўп сабраўшыхся на плошчы Леніна быў такі вялікі, што склалася ўражанне, што значная частка горада не працуе. Так яно і ёсць на самой справе, бо ўзровень беспрацоўя тут — адзін з самых высокіх па краіне. Працяглы час застаюцца без працы каля дзвюх тысяч чалавек, на адно свабоднае месца прэтэндуюць 27 такіх абяздоленых. Не ўдалося прэзідэнту "запусціць заводы", як абяцаў перад выбарамі. На буйнейшым мясцовым прадпрыемстве — заводзе радыёкампанентаў "Беліт" — з 1600 работнікаў цяпер засталося менш за 500 працуючых, і заняты яны толькі 4 дні ў тыдзень.

Акрамя гэтага прадпрыемства са стратамі працуюць шклозавод "Гута", завод жалезабетонных вырабаў, у заняпадзе кансервавы завод, дзве меліяратыўныя арганізацыі, аўтапрадпрыемства, камунальная гаспадарка. Няпростая сітуацыя і ў сельскай гаспадарцы: 6 калгасаў знізілі вытворчасць малака і мяса, 10 калектываў, у тым ліку аграбудфірма "Рассвет", нават не пачалі ўзводзіць жыллё з-за адсутнасці сродкаў. Намячалася ж прэзідэнцкай праграмай да канца года ўзвесці ў кожнай па 4 дамы. У 16 гаспадарак раёна ўраджайнасць збожжавых — у межах 16—18 цэнтнераў з гектара. Але аб гэтым дзяржаўныя газеты, радыё і тэлебачанне прамаўчаць, а будуць звыкла трубіць аб правільнасці ўзятага курсу, эканамічным росце і ўздыме.

Людзі, што сабраліся сустракаць "бацьку", між тым гаварылі, як цяжка стала жыць, і цярпліва чакалі, што ён скажа на гэты конт, ці абнадзеіць. Чакаць жа ім прыйшлося доўга, бо верталёт прызямліўся на аэрадроме мясцовай пагранічнай эскадрыллі каля 11 гадзін дня. Са свістам пранёсся па вуліцах прэзідэнцкі картэж з чорных лімузінаў і машын аховы. Не спыніўся, каб хоць павітаць людзей "усенародна абраны". Ён паляцеў аглядаць палі, малочны завод пасля рэканструкцыі. Нарэшце змаглі перавясці дух здаровыя малайцы ў камуфляжнай форме, якім прыйшлося папацець на сонцы.

Пэўна, зразумеўшы сваю памылку, прэзідэнт праз якую гадзіну зноў з'явіўся на плошчы і хвілін з 15 пагутарыў з натоўпам. Людзі паскардзіліся яму на адсутнасць работы, малыя пенсіі, папыталіся пра перспектывы жыллёвага будаўніцтва, узнялі іншыя дробныя пытанні, якія А.Лукашэнка зусім справядліва парэкамендаваў вырашыць з мясцовай "вертыкаллю". Быў на гэтай сустрэчы яшчэ адзін цікавы момант.

"Мы ўсе Вас, Аляксандр Рыгоравіч, любім, а вось мясцовага кіраўніка Чэпіка — не", — пачуліся галасы гараджан. Пачуць такое ад народа напярэдадні свайго заўтрашняга 50-гадовага юбілея стала цяжкім маральным ударам для паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта ў гэтай мясцовасці. У адрозненне ад кіраўніка дзяржавы, ягоныя прыхільнікі памятаюць, хто ў рашаючы момант прыняцця Канстытуцыі прапанаваў устанавіць узроставы рубеж для абрання беларускага прэзідэнта не маладзей за 45 гадоў. Калі б тая прапанова, агучаная менавіта В.Чэпікам, прайшла, хто б сёння ведаў пра дэпутата са шклоўскага саўгаса?

У большасці сваёй плошча гудзела, здзіўленая прыгажосцю Лукашэнкі як мужчыны, а таксама ягонай выдатнай формай і загартоўкай. Праўда, нямала сустрэў я людзей зусім з іншым настроем. Адзін дзядок злаваўся, што спазніўся на прыём да ўрача ў бальніцу, бо на гэты момант рух аўтобусаў быў часова прыпынены. Некаторыя абураліся, колькі ж народных грошай патрабуюць гэтыя пышныя наведванні рэгіёнаў і што яны могуць змяніць да лепшага ў нашым няпростым жыцці. "У цэнтры такая паказуха, — гаварылі мне пастаўчане, — а на асобных вуліцах — лужы, гразь, выбоіны. Там, канешне, не павезлі б Лукашэнку".

Падалося і мне, што прыехаў ён сюды больш не з практычнай, а, хутчэй, з азнаямленчай мэтай. Не надта цікава паслухаць тых жа рабочых з завода "Беліт" або сельскіх працаўнікоў з калгасаў "Праўда", "25-ты партз'езд", "Сцяг перамогі" і іншых, якія апынуліся сёння ў няпростай эканамічнай сітуацыі. Ды і шчыра адказаць, гледзячы ў вочы людзей, як жыць далей, як выйсці з крызісу, Лукашэнку было б няпроста. Зразумела, калі не размаўляць звыклымі штампамі, разлічанымі больш на знешні, прапагандысцкі эфект.

...Найбольш удала на гэты конт выказаўся ў размове са мной адзін ветэран. "Няўжо Лукашэнку так даспадобы гэтыя "пацёмкінскія вёскі", што паслужліва ўзводзяць перад ім?" — не мог зразумець стары чалавек. А вось за польскім часам, расказваў ён мне, калі ў Паставы прыязджалі высокія госці з Варшавы ці Вільні, жыхары свядома нічога не рабілі для арганізацыі сустрэчы-паказухі. Нават вуліцы не падмяталі і апраналіся ў горшае. А то візіцёры маглі ўявіць, што занадта добра жывуць людцы, і падаткі павысіць. Варта, каб і цяперашняе пакаленне хутчэй зразумела, што нельга спадзявацца на нейкае там цуда, а больш разлічвала на ўласны розум, сілу і працу. Тады і зможам мы рэальна змяніць жыццё да лепшага.

**Уладзімір ШЫК.**

Віцебская вобласць.

Скоро в школу





## Комплект учебников — каждому!

Пока школьники отдыхают, укрепляют здоровье, взрослые строят и ремонтируют для них классные помещения, печатают учебные пособия и другую литературу, словом, делают все, чтобы 1 сентября стало действительно праздником для детворы.

Коллектив Минского полиграфического комбината имени Якуба Коласа, как всегда, взял на себя основную нагрузку по выпуску школьных учебников. Из ста наименований 73 уже выпущены, еще 25 предстоит освоить в августе.

Печатники уверены, что заказы издательств "Вышэйшая школа", "Народная асвета", "Аскар" и других выполнят вовремя.

**На снимке:** *учебники, выпускаемые Минским полиграфическим комбинатом имени Я.Коласа.*

**Фото Геннадия СЕМЕНОВА, БелТА.**

## Бронзавы бюст Адама Міцкевіча будзе ўстаноўлены ў Гродне

Бронзавы бюст Адама Міцкевіча будзе ўстаноўлены ў Гродне перад будынкам Саюза палякаў Беларусі. Грошы на стварэнне помніка выдзелілі спонсары з Варшавы, у тым ліку і ўлады польскай сталіцы. У сваю чаргу беларускі бок павінен узвесці пастамент для бюста і добраўпарадкаваць тэрыторыю вакол будучага помніка. Плануецца, што бюст Адама Міцкевіча будзе ўстаноўлены ў кастрычніку.

**Ася КУНІЦКАЯ.**

## З 15 жніўня ў Беларусі на 10 працэнтаў павышаны цэны на белую гарэлку

З 15 жніўня ў Беларусі ў сярэднім на 10 працэнтаў выраслі цэны на белую гарэлку. Цяпер, напрыклад, паўлітровая бутэлька гарэлкі "Два буслы" у рознічным гандлі каштуе 73.600 рублёў, "Рускай" — 75.400, "Пшанічнай" і "Сталічнай" — 75.600, "Крышталь-100" — 81.700, "Белая Русь" — 85.500, "Крышталь-Люкс" — 85.800 рублёў. Цана бутэлькі можа быць рознай у залежнасці ад яе тыпу. За апошнія два месяцы белая гарэлка ў Беларусі падаражэла ўжо на 20 працэнтаў.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

Резонанс

*Самоотверженный огненный акт витебского правозащитника Алексея Филипченко воспринят белорусским обществом неоднозначно. "Народная воля" доводит до читателей один из поступивших откликов.*

## Заявление правления белорусской секции Международного общества прав человека

Правление белорусской секции Международного общества прав человека выражает сожаление по поводу трагической смерти правозащитника Алексея Филипченко и выражает соболезнование его родным. Позором покрыли себя те, кто в Новополоцке создал такую ситуацию, при которой стало возможным это событие. Естественно, возникает вопрос: могут ли оставаться и далее на своих должностях все те, кто издевался, осмеивал А.Филипченко, другими словами, толкнул его на такой шаг?

Поступок правозащитника из Новополоцка — яркое подтверждение того, что проблема прав человека в нашем обществе имеет свою актуальность и требует активизации усилий многих людей, общественности в целом. Оставаться один на один с теми, кто издевается над человеческим достоинством, безразличен к судьбе простого человека, понимает только один язык — язык власти или больших денег, опасно и даже смертельно.

БС МОПЧ выступает за мирные, ненасильственные методы борьбы за права человека. Мы поддерживаем всех тех, у кого фактически отобраны права, униженных и оскорбленных, активистов движения за права человека и решительно осуждаем тех, кто их нарушает, пытается узаконить эти нарушения, злоупотребляя при этом властью, в том числе и судебной, заявляет инакомыслящему: "Что мне ваша Конституция!".

**Иван Котляр,**
**председатель правления белорусской секции Международного общества прав человека, профессор Брестского государственного университета.**

Страницы истории

*Игорь УСТИМЕНКО*

## Диверсии Антифашистской лиги

17 июля 1936 года радиостанция города Сеута в испанском Марокко передала сообщение: "Над всей Испанией безоблачное небо". Эта вполне безобидная фраза послужила сигналом для начала фашистского мятежа, возглавленного генералом Франсиско Франко. Испания раскололась на два лагеря — франкистов и республиканцев. Вспыхнула гражданская война, которая, как и все гражданские войны, велась жестоко, кроваво, без правил и ограничений.

Мятеж расколол на две части не только испанское общество, но и весь мир — на тех, кто поддерживал испанскую республику, и тех, кто оказывал помощь франкистам. Это содействие носило разнообразные формы — политические, экономические и военные. Советский Союз принадлежал к числу одних из самых активных и влиятельных сторонников республики. В качестве добровольцев в Испанию прибыло около 2 тысяч советских летчиков, танкистов, артиллеристов и моряков. Советские суда доставили 648 самолетов, 467 танков и бронемашин, 1526 орудий и минометов, более 20 тысяч пулеметов и полмиллиона винтовок, не считая снарядов, авиабомб, патронов и гранат.

Старались по мере сил помочь и страны демократии. Далекая Мексика прислала 155 орудий и боеприпасы на сумму 1,5 миллиона долларов. Кое-что поставили Англия и Франция, но в основном их помощь носила гуманитарный характер — продовольствие, медикаменты и прочее. Даже Польша отправила в Испанию 72 старых танка "Рено-17".

Но все же эта помощь не шла ни в какое сравнение с той, которую франкистам оказывали Германия и Италия. Гитлер и Муссолини открыто поддерживали "младшего брата" Франсиско Франко. Италия прислала 250 тысяч "добровольцев", Германия — 50 тысяч, в том числе знаменитый воздушный легион "Кондор". Только Муссолини передал Франко 759 самолетов, 950 танков, 3396 орудий и минометов. Итальянские самолеты сбросили на испанские города 11.585 тонн авиабомб. Мир потрясла трагедия Герники, стертой с лица земли в ходе воздушного налета фашистских бомбардировщиков.

В этих условиях свой моральный выбор делали не только страны, но и отдельные люди. Многие из тех, кто понимал растущую угрозу фашизма, отправились в Испанию, чтобы с оружием в руках воевать в составе интернациональных бригад. Другие всемерно старались помешать притоку оружия и боеприпасов франкистам. Немалую роль здесь сыграли антифашистски настроенные моряки и докеры. Их профсоюз под названием "Международная организация объединенных моряков и докеров" был создан еще в 1935 году. Это была крупная разветвленная организация, включавшая в себя представителей 22 независимых и 19 колониальных стран. В 47 крупных портах мира имелись ее интерклубы, где среди плавсостава велась социальная, политическая и развлекательная работа.

Известие о фашистском мятеже в Испании было воспринято членами Союза однозначно. Внутри организации была создана Антифашистская лига, поставившая своей целью организацию бойкота судов, плававших под флагами фашистских стран. Возглавили ее коммунистически настроенные лидеры из Германии и скандинавских стран — Эрнст Волльвебер, Свен Лассе Линдеррот, Вольдемар Вернер и Адольф Байер. На первом этапе большую помощь Лиге оказывали 20 членов Коммунистической партии Германии во главе с Михаэлисом.

Решено было не останавливаться и перед такой крайней мерой, как осуществление диверсий на судах, перевозящих из Италии и Германии оружие для Франко. Поначалу на них организовывались поджоги, но это давало малый эффект. Тогда перешли к закладке бомб с часовым механизмом. Их устанавливали в грузовых трюмах, угольных бункерах или холодильной установке, поближе к борту, но с расчетом, чтобы взрыв причинил минимальный ущерб экипажу.

Первым в бухте Таранто взорвалось и затонуло итальянское судно "Фельче". Груз из автомобилей и запасных частей к ним так и не дошел до армии франкистов. За ним последовал японский пароход "Тадзима Мару". Следуя из Германии, он зашел в Роттердам, где боевая группа Лиги и установила на нем мину. Судно затонуло. Один за другим прогремели взрывы на немецком судне "Клас Бёге", голландском "Вестпляйн", японском "Кадзи Мару", румынском "Бессарабия" и ряде других.

Отлично была налажена и служба разведки. Докеры Гамбурга передавали руководителям Лиги информацию о грузах на судах, их маршрутах и времени отплытия. При необходимости закладывали и мины. В 1937 году члены группы были выслежены и арестованы гестапо. Двенадцать из них были приговорены к смертной казни, остальные — к длительным срокам тюремного заключения.

С началом второй мировой войны деятельность группы еще более осложнилась. В Германии зверствовало гестапо и большинству подпольщиков пришлось перебраться в нейтральные Данию и Норвегию. Но акции продолжались. Конспирация была поставлена на самом высоком уровне. В Париже находилась типография, где изготовлялись поддельные документы. Все члены группы имели подпольные псевдонимы. Секретная переписка велась невидимыми чернилами из молока, лимонного или лукового сока. Если по делам организации ее членам приходилось проезжать через территорию Германии, то с каждой остановки в Копенгаген отправлялась открытка. Если открытка не приходила, становилось ясно, что курьер арестован.

Все эти меры предосторожности давали свои результаты. Взрывы на судах фашистского блока продолжались. Гестапо с ног сбилось, разыскивая их организаторов. Один из тогдашних руководителей гестапо Гейдрих 10 августа 1940 года докладывал Гиммлеру: "Разбросанным по всей Европе коммунистическим группам террористов следует приписать случаи саботажа (по-немецки "саботаж" и "диверсия" имеют одинаковое значение. — **И.У.**) на 16 немецких, 3 итальянских и 2 японских судах. Две лучшие из них единицы были уничтожены полностью. Преступники пробовали поначалу уничтожать суда путем поджога, хотя этот метод не давал полной гарантии уничтожения объекта, но вскоре стали использовать и взрывчатые материалы... Их главные базы размещаются в портах Гамбурга, Бремерхафена, Гданьска, Роттердама, Амстердама, Копенгагена, Осло, Таллинна и Риги.

Диверсионные группы, сформированные в Голландии, Бельгии и Франции, действовали под руководством голландского коммуниста Йозефа Римбертуса Шаапа, возглавлявшего интерклуб в Роттердаме. В Гамбурге его непосредственным подчиненным был давний лидер союза портовиков Карл Баргстед, ответственный за техническую сторону мероприятий. Взрывчатые материалы, необходимые для осуществления диверсий, доставлялись из Скандинавии на судах-рудовозах.

Полицейское расследование привело к задержанию 24 коммунистических активистов, в том числе голландской диверсионной группы Ахилле Бегуина и руководителя бельгийской группы Альфонса Фихтельса. Шаап был схвачен 1 августа датской полицией".

В апреле 1940 года немецкие войска высадились в Дании и Норвегии, в мае — июне капитулировали Бельгия, Голландия и Франция. Условия для действий Лиги еще более ухудшились. В Копенгагене в связи с 23 случаями диверсий на немецких судах был арестован ряд моряков и докеров порта. В мае Волльвебер вместе с оставшимися членами Лиги был вынужден перебраться в Швецию.

Нельзя сказать, что этот выбор был удачным. Швеция не хотела осложнений с Германией, и Волльвебер сразу же попал под наблюдение шведской полиции. 18 мая его арестовали и посадили в тюрьму, где он находился до 15 ноября 1944 года. По желанию советского руководства его переправили в СССР. Забегая вперед, скажем, что после войны Волльвебер стал одним из руководителей госбезопасности ГДР.

Несмотря на арест руководителя, оставшиеся на свободе члены группы продолжали действовать. Их деятельность активизировалась после нападения Гремании на СССР. В июне 1941 года шведской полицией была предотвращена попытка диверсии на финском судне "Фигге" в одном из шведских портов (Финляндия также воевала против СССР). 14 сентября в Хельсинки в результате диверсии взорвались немецкие тральщики R-60, R-61 и R-62, серьезно повреждены морские буксиры "Пассат" и "Фён". Погиб 61 немецкий моряк. Почти одновременно со взрывами в Хельсинки прогремели взрывы на шведской морской базе Хоршфьярден под Стокгольмом. Здесь 17 сентября от взрывов погибли шведские эсминцы "Гётеборг", "Клас Хорн" и "Клас Уггла" и 33 члена их экипажей. Комиссия, проводившая расследование, предположила, что диверсию совершили члены группы Волльвебера в отместку за конвоирование немецких судов с военными грузами шведскими боевыми кораблями.

Однако движение уже шло на убыль. Часть активистов была арестована, часть явилась с повинной, как шведский рабочий-горняк Цедер. Последний сам явился в полицию города Лулео и принес три медные трубки для "адской машины". Достать же взрывчатку на руднике было проще простого.

Последней акцией Лиги был поджог немецкого лайнера "Бремен" в порту Бремерхафен, после чего акции прекратились. И хотя подпольщики-интернационалисты многого не успели сделать, они внесли свой вклад в победу человечества над фашизмом.

Ну а что же советские граждане? Они, как и их европейские товарищи, не сидели сложа руки. Моряки, подпольщики и даже военнопленные в портах на оккупированной территории Советского Союза организовывали диверсии на судах и кораблях фашистского рейха. Так, в Севастополе 7 ноября 1943 года (обратите внимание на дату) они уничтожили немецкий пароход "Орион" и повредили сетевой заградитель NT-37. Была предпринята попытка диверсии на итальянской карликовой подводной лодке. 25 июля 1944 года в Таллинне советские военнопленные взорвали груженный боеприпасами немецкий транспорт "Нордвинд". Взрыв был настолько ужасен, что разрушил часть порта, погибло около 200 немцев и эстонцев, а также часть военнопленных, не посвященных в план операции. И этот список можно еще долго продолжать. Борьба с фашизмом набирала силу, и в ней каждый делал то, что мог...

Личный взгляд

*Как ни странно, но именно идеи, которые вначале кажутся абсурдными, часто становятся определяющими.*

*Традиционный взгляд не терпит ростка нового, этого "гадкого утенка". Сожгли на костре ученого, который первым сказал, что земля вертится, ссылали в гулаги тех, кто защищал "продажную девку империализма" — генетику, смеялись над недоучкой ефрейтором Гитлером, а как хохотали белорусские депутаты над выступлениями своего коллеги Лукашенко...*

*Словом, хочется поделиться некоторыми "абсурдными" рассуждениями. А точнее было бы сказать — нетрадиционными.*

### 1. Откуда опасность?

**Опасность имеет одну особенность. Она приходит внезапно и совсем не с той стороны, с которой ее ждут.**

**Многие мировые политики и аналитики видят ее в ухудшении экологии, расползании ядерного оружия, исламе... Но, однажды проснувшись и увидев в кремлевском кресле Александра Григорьевича, размахивающего ядерным чемоданчиком, поймут, что до экологической катастрофы человечество вряд ли доживет. Найдется много специалистов с учеными степенями и общественным признанием, которые нам подробно объяснят, почему это произошло.**

**Но лучше все же об этом задуматься сейчас, когда еще есть возможность подправить будущее.**

**Пожалуй, каждый человек, да и общество в целом, всегда мечтали заглянуть в завтрашний день. С этой целью пытались даже придумать "машину времени". Но ключи от будущего у нас давно есть. Это наш ум. Давно доказано, что когда есть два известных, то всегда можно определить третье неизвестное. Нам известно наше прошлое и наше сегодняшнее. Через них можно уверенно протянуть нить в третье — в будущее.**

**И вот она, эта "умственная нить" выводит в кремлевское кресло А.Г. Будь то выборы, будь то очередной путч, вариант с его участием — довольно проходной. Российская глубинка, по прикидкам независимых экспертов, готова до 80—90% своих голосов отдать за Лукашенко.**

**Но Запад не хочет в это верить. Три года назад на крупнейшем Берлинском форуме, который собрал аналитиков и политиков почти со всех европейских столиц, подобные рассуждения вызвали улыбку. Повторю, за восемь лет до начала второй мировой войны лучшие умы из этих же столиц пренебрежительно посмеивались над ефрейтором Гитлером.**

**Нетрудно заметить, что сейчас главное в деятельности белорусского президента — не экономика, не наука, а постоянная борьба с оппозицией и инакомыслием. Он живет не созиданием, а борьбой, в этом суть его личности. Оказавшись в кремлевском кресле, он сможет лишь расширить рамки этой борьбы на российские регионы и другие страны. На что-то другое он просто не способен. Только вместо резиновой дубинки у него уже будет ядерная кнопка.**

**Иван МАКАЛОВИЧ.**

*Продолжение следует.*

## Камандаванне Ваенна-паветраных сіл Беларусі прапануе пазабюджэтныя шляхі фінансавання шэрагу відаў узброеных сіл

Улічваючы рэальныя эканамічныя магчымасці дзяржавы, камандаванне Ваенна-паветраных сіл Беларусі прапануе пазабюджэтныя шляхі фінансавання ВПС рэспублікі. Аб гэтым паведаміў камандуючы ВПС генерал-маёр Сяргей Булыгін.

Па яго словах, "прааналізаваўшы колькасць паветраных суднаў, якія маюць ВПС, мы зрабілі вывад, што самалётны і верталётны парк можна скараціць". Пры гэтым "скарочаную" тэхніку "не проста вывесці за штат, а прапанаваць для рэалізацыі на рынак узбраення". Частку выручаных сродкаў, лічыць С.Булыгін, "можна было б пусціць на аднаўленне рэсурсу астатняй тэхнікі, г.з. закупіць новыя сістэмы і агрэгаты, авіяцыйныя рухавікі, якія ў Беларусі, на жаль, не выпускаюцца.

Яшчэ адзін шлях пазабюджэтнага фінансавання ВПС, па словах камандуючага, заключаецца ў актыўным прыцягненні парка транспартных самалётаў і верталётаў да перавозак грузаў у інтарэсах народнай гаспадаркі. У гэтым выпадку і з улікам магчымасці выкарыстання атрыманых за гэтыя работы фінансавых сродкаў, як сцвярджае С.Булыгін, мела б месца двайная карысць. Па-першае, атрыманыя сродкі сталі бы "вялікай дапамогай у падтрыманні парку тэхнікі ў спраўным стане, і па-другое, лётчыкі мелі б неабходны налёт гадзін і вялікую натрэніраванасць".

У ліку іншых накірункаў пазабюджэтнага фінансавання камандуючы назваў атрыманне сродкаў за пошукава-выратавальнае забеспячэнне палётаў паветраных суднаў па рэспубліцы, ускладзенае цяпер выключна на ВПС, вызваленне авіярамонтных прадпрыемстваў ад падатку на дабаўленую вартасць і вядзенне з дзяржавай рэальных разлікаў за здачу лома каляровых і каштоўных металаў, якія ўтрымліваюцца ў састарэлай тэхніцы.

**Алег САКАЛОЎ.**

## Гомельскі тлушчавы камбінат спыніў працу з-за адсутнасці сродкаў на закупку сыравіны

Ужо цэлы тыдзень Гомельскі тлушчавы камбінат не працуе з-за адсутнасці сыравіны — алею. У прадпрыемства няма сродкаў, каб закупіць сыравіну па сусветных цэнах, на што штомесяц патрабуецца 4 мільёны долараў ЗША, а расійскія і ўкраінскія пастаўшчыкі прапануюць алей па цэнах, якія не дазваляюць камбінату з-за ўстаноўленага ўзроўню інфляцыі ў 2 працэнты ў месяц працаваць з прыбыткам.

Рост цэн на алей прывёў да таго, што па выніках першага паўгоддзя рэнтабельнасць прадпрыемства склала ўсяго 1,6 працэнта. У апошні час з-за перабоеў у працы Мінскага маргарынавага завода Гомельскі тлушчавы камбінат быў вымушаны адзін задавальняць патрэбы рэспублікі ў тлушчавай прадукцыі, зразумела, наколькі дазвалялі магчымасці. Цяпер кіраўніцтва прадпрыемства сумесна з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання, канцэрнам "Белдзяржхарчпрам" і ўрадам краіны спрабуе знайсці выйсце са становішча, працаўнікі камбіната адпраўлены ў неаплачваемы адпачынак да 7 верасня.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

Паралелі

## "Ах, какая ты зараза, Отказала мне два раза..."

У многіх дужа папулярных "бальшавіцкіх" песнях столькі бязглуздзіцы, што, слухаючы іх цяпер, нават злосць прападае, дзівішся, як такое можна было "тварыць":

*Смело мы в бой пойдем*
*За власть Советов —*
*И, как один, умрем*
*В борьбе за это.*

Уяўляеце? Усе памерлі ў вялікім змаганні за Саветы. І... нікога не засталося пасля таго "бою". Каму ў такім разе спатрэбілася б "власть Советов"?

У песнях таго часу, закліканых выхоўваць адданасць камуністычным ідэалам, напісаных у парыве той жа адданасці, — безліч недарэчнасцей, недакладнасцей, супярэчнасцей. У адной з іх расказваецца, як "сотня юных бойцов из буденновских войск на разведку в поля поскакала". Далей: "...они ехали долго в ночной тишине по широкой украинской степи". Значыць, "поскакали в поле", а "ехали... по степи". Але ж поле і стэп — не адно і тое ж. Скакаць і ехаць — таксама.

Разведчыкі "приехали-прискакали" — і ўбачылі:

*Вдруг вдали у реки засверкали*
*штыки,*
*Это белогвардейские цепи.*

Ад чаго заблiскалі тыя штыхі ў начной цішыні? Не было ж ні сонца, ні месяца. А белагвардзейскія "цепи"? Хто гэта разгарнуў у "цепь" белагвардзейцаў ноччу ў стэпе? Смешна, наіўна ўсё гэта.

Стараючыся паказаць гераізм рэвалюцыянераў, аўтары слоў да песень забываліся і на логіку, і на здаровы сэнс. "Песня про Щорса" пачынаецца так:

*Шел отряд по берегу,*
*Шел издалека,*
*Шел под красным знаменем*
*Командир полка.*
*Голова обвязана,*
*Кровь на рукаве,*
*След кровавый стелется*
*По сырой траве.*

Песню спявалі не адно дзесяціГоддзе, захапляліся гераізмам легендарнага Шчорса. Але... Атрад ішоў па беразе, здалёку. Значыць, той бераг доўгі. Едуць доўга, камандзір сцякае крывёю — і ўсім хоць бы што. А як можа слацца крывавы след па сырой траве з перавязанай (обвязанной) галавы?

Можна прыводзіць шмат узораў падобнай "творчасці". Яны сведчаць пра нізкі ўзровень песеннай культуры таго часу, хаця тады ствараліся і добрыя песні, якія прыемна паслухаць сёння. Але вядома, што нядобры прыклад заразлівы.

Водгукі таго "мастацтва" дзіўным чынам паўтараюцца ў нашы дні. Праўда, не ў "рэвалюцыйным энтузіязме", а ў "сексуальнай", я сказаў бы, істэрыі. Паглядзіце, што нясецца з эстрадных падмосткаў, што гучыць па радыё, што запаланіла экраны тэлевізараў. А што чуецца з касет ва ўсіх гарадах, мястэчках, вёсках? Усюды — сексуальны подых эстрады. З рэвалюцыйнага мінулага ў парыве энтузіязму ён перахапіў у асноўным бязглуздасць, дадаўшы прыніжанасць высокага пачуцця — кахання, звёўшы яго ледзь не да жывёльнага стану. Вось некалькі прыкладаў:

*И коленки мои не тревожь.*
*Ты скажи, ты скажи,*
*Чё те надо, чё те надо,*
*Но не дам, но не дам,*
*Чё ты хошь.*

Пра сэнс і гаварыць не хочацца. Звярніце ўвагу на мову.

У розных варыянтах, з дабаўкамі, з крыўляннямі сышла з экранаў тэлевізараў брыда:

*Ты отказала мне два раза,*
*"Не хочу", — сказала ты.*
*Вот такая вот зараза*
*Девушка моей мечты...*

І так бясконца. Пайшла гуляць у падваротнях, на вяселлях, вечарынах. Пад яе танцуюць і дарослыя, і дзеці. Дакладней — не танцуюць, а выпендрываюцца.

Такая "песенная культура" (узораў яе — процьма) пранізала, паралізавала свядомасць многіх: брыда, пошласць хутчэй засвойваюцца. Хутчэй разбэшчваюць душы, асабліва дзіцячыя і юначыя.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

## Наркаманаў можна пазнаць па валасах?

Валасы могуць "расказаць" аб прывычках свайго гаспадара многае. Вырастаючы прыкладна на 1 см у месяц, яны "складзіруюць" інфармацыю аб тым, якія лякарствы, наркотыкі ці іншыя хімічныя рэчывы прымаў у гэты перыяд чалавек. Такім чынам, калі вашы валасы даўжыней 5 см, то, адразаючы сантыметр за сантыметрам, можна ўстанавіць, выкарыстоўвалі вы наркотыкі апошнія 5 месяцаў ці не. Такі аналіз ужо робяць у Італіі і Іспаніі. У гэтых краінах дзейнічае наступнае правіла: калі вы хочаце атрымаць, напрыклад, забраныя правы, неабходна даказаць, што вы апошнія 3 месяцы не карысталіся наркотыкамі.

Акрамя дарожнай паліцыі, аналізам валасоў цікавіцца судовамедыцынская экспертыза. Злачынцаў, прыгавораных да прымусовага медыкаментознага лячэння, можна лёгка кантраляваць пры дапамозе аналізу валасоў, выключаючы дарагія метады. Пры судовым разборы, калі падазроны сцвярджае, што ён не выкарыстоўваў наркотыкі, аналіз валасоў можа быць адзіным доказам яго віны ці невінаватасці.

Гэты метад цяпер праходзіць выпрабаванні на пацыентах шэрага спецустаноў Швецыі, Фінляндыі, Германіі і Канады. Калі ён сапраўды будзе прызнаны незаменным, то знойдзе шырокае прымяненне ва ўсіх краінах Еўрасаюза.

**Інэса МОІН,**

Стакгольм.

**БелТА.**

